Przesyłka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 3 (17) | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня, 30-га студзеня 1934 | Выходзіць два разы ў месяц. | Год II

Прыймо інтарэсантаў ў рэдакцыі штодзень ад 9-й да 4-й гадзіны. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр. у 3 » —70 » у ½ года—1.30 у 1 год —2.50 | Konto P.K.O. Nr. 144.511 Уласьнік конта—Інж. А. КАРПОВІЧ.

# Жменя сьвятла.

### Зладзейская тактыка.

Перадусім сьцьвярджаем факт. Першая зацемка аб арэшце быўшых паслоў „Грамады“ і „Змаганьня“ ў БССР была надрукована ў „Родным Краі“ яшчэ ў верасьні мінулага году. Ад гэтага часу, як „Родны Край“ так і „Крыніца“ пяць месяцаў аб гэтай, першароднай вагі справе, упарта маўчалі. Толькі цяпер, пасьля таго, як „Беларуская Газэта“ пачала апублікоўваць сёньня ўжо ўсім ведамыя факты, аб здрадніцкай дзейнасьці луцкевічаўскіх агэнтаў — і „Родны Край“ і „Крыніца“ загаманілі поўным голасам.

І, як заўсёды, калі зловіш зладзеяў на гарачым учынку, яны стараюцца перадусім выгарадзіць сябе самых,—... што-ж я нічога, нідзе і ніколі... ці я каму калісь крыўду зрабіў... Факты гавораць аб а д з і н с т в е і Луцкевічаў, і кс. Станкевічаў, і Дварчанінаў, а „Крыніца“ піша: „з Луцкевічам ад добрага дзесятка гадоў мы ня маем нічога супольнага“. На падмогу кумпану прыходзіць „Родны Край“ і апраўдываецца гэткім чынам: „... ведама ўсім (?) што ніякага процісавецкага „Беларускага Цэнтру“ ў Заходняй Беларусі няма, што гр. Луцкевіч ні даякае супольнае арганізацыі з кс. Станкевічам не належыць, а наадварот, кс. Станкевіч вядзе проці гр. Луцкевіча непрымірымую барацьбу“...

Словам — усё разыгрываецца, як на нотах. Яны гатовы прысягнуць, што кожны з іх ніколі нават і ня чуў аб існаваньні другога, а з Дварчанінам, як усім ведама, публічна сварыліся, так гучаць у свае апраўданьне, думаючы, што масы ім павераць.

Няма вам чаго апраўдывацца паны — груганы: удэрылі вас па лапах, дык сядзеце моўчкі так, як сядзелі дагэтуль, бо калі пачынаеце гаварыць, дык самі тады выдаеце сябе з галавою.

### Іх „незалежнасьць“.

„Родны Край“ ня можа прамаўчаць аб тысячах беларускіх школаў, дзесятках унівэрсытэтаў і буйным узросьце прамысловасьці ў БССР. Але, кажуць яны, гэта ўсё робіцца, „пад камандай маскоўскага імпэр'ялізму“. І „Родны Край“, як і „Крыніца“, проціўстаўляюць БССР з „Радай Беларускай Народнай Рэспублікі“, створанай у 1918 годзе беларускімі заможніцкімі клясамі. Ідэолёгія БНР—гэта „незалежніцкая“ ідэолёгія — кажуць яны. Вось аб гэтай „незалежнасьці“ БНР прыводзім два дакумэнты.

1. У тэлеграме, пасланай Радай БНР імпэратару Вільгэльму зараз пасьля акупаваньня нямецкімі вайскамі, паміж іншым была выражана

> „падзяка за вызваленьне Беларусі праз нямецкія войска“,

а потым запэўнівалася, што

> „толькі пад апекай нямецкага імператара беларуская краіна бачыць сваю будучыню“...

Гэта было ў сакавіку 1918 году.

2. У жніўні 1918 году сытуацыя крыху зьмянілася. Польскае войска заняло Менск. І вось тады, прадстаўнік выканаўчага камітэту БНР, вітае Начальніка Польскае Дзяржавы Юзэфа Пілсудзкага наступнымі славамі:

> „Вітаю цябе, пане Начальнік, ад імя нашых беларускіх дэлегатаў, рэпрэзэнтуючых беларускую люднасьць і выказваю гарачую падзяку за вызваленьне Менску і Меншчыны ад новага цяжкага наезду маскоўскага імпэрыялізму, які тым разам апрануўся ў бальшавіцкую форму. Але плачуць яшчэ маткі ў Віцебску, стогнуць яшчэ людзі ў Магілёве, маўчыць голас мохам пакрытых званоў у Смаленску. Верым і маем надзею, што разам з вольным Менскам, Вільняй і Горадняй—вольныя і шчасьлівыя будуць Віцэбск, Магілёў і стары Смаленск. Гэтага спадзяемся, гэтаму верым. Гэтай верай і надзеяй надзяліў нас братэрскі народ, чыім вялікім, слаўным прадстаўніком мы гатовы сказаць ў Меншчыне ня толькі нашае сёньняшняе „дзякуй“, але заўсёды „вітаем Цябе, прыхадзі да нас госьць наш мілы, дарагі сасед“*).

Нам здаецца, што тлумачэньне тут не патрэбнае. Чыстата „незалежніцкае“ ідэолёгіі выражана тут з поўнаю яснасьцю.

### Луцкевіч... за ленінскую лінію.

Паводле „Роднага Краю“ ўсе злыбяды „беларусаў“ (потым пабачым хто яны, гэтыя беларусы) ў БССР выцякаюць з таго, што Ленін памёр, а на яго мейсца прыйшоў Сталін. Ленін, бачыце, праводзіў правільную нацыянальную палітыку, а Сталін яе скажае. Сапраўды-ж сьмеху варта! У СССР жывуць 192 народаў, шмат з іх да бальшавіцкае рэвалюцыі нават ня мелі свайго альфабэту, а цяпер маюць свае роднае школьніцтва, газэты, кнігі поруч з разьвіцьцём гаспадаркі нават на найбольш адсталых абшарах. А паводле „Роднага Краю“ Сталін там творыць „адзіную рускую пралетарскую культуру“. Дзіўная неяк гэтая „руская культура“, якая стварае ўмовы для ўсебаковага разьвіцьця 192 нацыянальнасьцяў.

Мы, прызнацца, ня бачым ніякай розьніцы у нацыянальнай палітыцы бальшавікоў за жыцьця, ці пасьля сьмерці Леніна. І таксама мы ня бачым ніякай фактычнай розьніцы паміж стасункам беларускіх заможніцкіх клясаў да БССР за жыцьця Леніна і сёньня. Зьместам гэтага стасунку заўсёды была і ёсьць непрымірымая варожасьць і актыўная барацьба. Розьніца была толькі ў тактыцы у розных пэрыядах. Быў час калі яны лічылі на перараджэньне БССР знутры. Тады стараліся прабрацца на кіраўнічыя становішча і уплываць на гаспадарчую палітыку БССР, як напрыклад падтрыманьнем кулацкае хутарызацыі. Калі з увядзеньнем колектывізацыі і узрастам сацыялістычнае прамысловасьці гэтыя надзеі кулацтва расплыліся, тады яны пайшлі да больш актыўнае шкодніцкае дзейнасьці і ваенных плянаў. Адным з прыкладаў гэтае шкодніцкай тактыкі іменна служыць раскрытая дзейнасьць Дварчанінаў у БССР Групы Дварчанінаў і Ластоўскіх нічога супольнага ня маюць з працоўнымі масамі. Яны ішлі супроць масаў і іменна таму іх паражэньне было гістарычнаю неабходнасьцю.

### Ліквідацыя, якое працоўныя шкадаваць ня будуць.

Па царскіх і праскіх унівэрсытэтах да вайны і зараз пасьля яе вучыліся дзесяткі сыноў беларускага кулацтва, беларускіх абшарнікаў і наагулбагацеяў. Яны стварылі тыя групы інтэлегэнцыі, якія сталі на чале масавых беларускіх арганізацыяў пасьля вайны, імкнучыся запрагчы масы да пакорнага маршу па сваёй каляіне. З гэтых груп складалася Рада БНР, большасьць цэнтральнага кіраўніцтва „Грамады“, «Змаганьня», сучаснае кіраўніцтва Галоўнае Управы ТБШ., не гаворачы ужо аб дзеячох беларускае санацыі і хадэцыі, шкодніцкае групы арыштованага ў БССР праф. Ластоўскага і іншых.

Усе гэтыя групы належачы часта *фармальна* да розных напрамкаў, фактычна прасьледавалі і прасьледуюць адныя мэты — спыненьне самастойнага масавага руху працоўных, зьніштожэньне БССР, утварэньне беларускае буржуазнае дзяржавы. Вось ліквідацыю гэткіх групаў „Родны Край“ і „Крыніца“ называюць;

> „савецкім паходам проціў Беларусоў“... потым пішуць: „шляхам зьніштожэньня беларускае інтэлегенцыі нават найбольш аддана саветам, імкнецца пазбавіць наш народ яго-нага інтэлекту — мыслячага цэнтру — і тым лягчэй яго абмасковіць“. (Родны Край № 2, 1934 г.)

Вось тут вылазіць шыла з мяшка. Паном Луцкевічам балюча за *сваю* інтэлегенцыю—з іх-жа панскае крыві і косьці. Бо-ж толькі наіўны паверыць у паход супроць беларускае інтэлегенцыі ў БССР. Хіба... утварэньне 32 вышэйшых беларускіх навуковых установаў, дзесяткаў тэхнікумаў, якія штогод выпускаюць сотні інжынэраў, дахтароў, агрономаў, вучыцялёў — перадусім дзяцей рабочых і сялян, і утварэньне больш 5000 пачатковых школ у БССР. Хіба ўсё гэта можна назваць ліквідацыяй інтэлегенцыі? З такою „ліквідацыяй“ мы можам згадзіцца.

* * *

Вось жменька заўваг, якія мы лічым неабходным зрабіць у сувязі з вялікім гоманам, паднятым беларускай санацыяй і хадэцыяй з прычыны выкрыцьця іх кумпанаў у БССР і разаблачэньня іх здрадніцкае дзейнасьці у нас, на Заходняй Беларусі.

Нашае становішча яснае. І мы упэўняны што працоўныя масы ня толькі нас разумеюць але і зробяць з апошніх падзеяў адпаведныя вывады. Галоўным з іх будзе наступны: нашымі выбаўцамі ніколі ня будуць тыя „інтэлекты“, якіх падсылаюць да нас паны Луцкевічы. Сіла ў нас самых, — у рабочых ды сялянах. Мы самі мусім кіраваць сваім змаганьнем і толькі тады будзе запэўняна перамога. Гэта найважнейшае.

Набліжаюцца вялікія гістарычныя падзеі у якіх будзе вырашаны наш лёс. Тым больш важным зьяўляяцца памятаваць аб гэтай навуццы.

*) Усе прыведзеныя цытаты ўзяты з брашуры: „Stanisław Elski — Sprawa Białoruska — Warszawa, 1931 г.

## „Далекі Усход“ — ад нас не далекі.

Шмат цяпер пішуць у газэтах — нават і ў буржуазных, аб падрыхтоўцы Японіі да нападу на СССР. Таксама шмат пішуць аб ваенных рыхтаваньнях гітлероўскай Нямеччыны.

І сапраўды: на Далёкім Усходзе насьпеваюць — і ўжо сёньня адбываюцца вялікія гістарычныя падзеі. Японскі імпэрыялізм, заграбіўшы Манджурыю і шэраг іншых правінцыяў у Кітаі (пры ціхай згодзе кітайскіх імпэрыялістаў на чале з Чан-Кай-Шы), асягнуў непасрэдную граніцу з Савецкім Саюзам, напоўніў захопленую плошчу выбуховымі матэр'яламі, шматлікаю арміяй і штодзень стасуя новыя ваенныя правакацыі — імкнецца да антысавецкае вайны, як да свайго апошняга ратунку.

Адначасна з Захаду, *пасьпешна і няхаваючыся*, узбройваецца гітлероўская Нямеччына. Гітлер—Розэнбэрг *адкрыта* гавораць аб сваёй „місіі“ здушэньня „сусьветнага бальшавізму“— а перадусім Савецкага Саюзу.

Візыты японскіх генэралаў у Бэрлін, актыўны ўдзел Нямецкіх вайсковых спэцыялістаў, як фон Зект, ў здушэньні Савецкага Кітаю, дапаўняюць вобраз, ясна паказваючы наяўнасьць супольнага японска-нямецкага фронту.

Усё гэта існуючая праўда, якой ніхто не запярэчыць, бо яе бачаць. Для буржуазнае прэсы многіх дзяржаваў гоман аб *гэтай* праўдзе дапамагае маскаваць зусім *іншую праўду*. Трэба прызнаць, што ім гэта часта ўдаецца: пры хітра пабудаванай агітацыі, спрытным маскаваньні сапраўднасьці, масы *ў нашых умовах* часта бачаць небясьпеку вайны *толькі* на Далёкім Усходзе і ў гітлероўскіх плянах. Нават на старонках „Беларускае Газэты“ у некаторых артыкулах — паміма волі аўтароў — ня раз праходзіць іменна гэта думка.

Сапраўднасьць выглядае інакш. Бязумоўна мірныя пакты, якія падпісаны многімі дзяржавамі па прапанове Савецкага Саюзу, зьяўляюцца выразам таго, што ўрады лічацца з настроямі масаў—настроямі, якія нічога супольнага з падрыхтоўкаю вайны ня маюць. Адначасна трэба быць сьляпым, каб ня бачыць, што ліхаманкавае ўзбраеньне ідзе шалёным тэмпам ва *ўсіх* капіталістычных дзяржавах, што тыя самыя дзяржавы, якія зусім нядаўна разгарнулі шалёную кампанію проці гітлероўскіх Немец, сёньня знайшлі супольную падставу і супольны фронт для перагавораў і... нават дагавораў з Гітлерам.

Факты жыцьця даказваюць, што ваенная небясьпека пагражае і зьяўляецца больш актыўнай чым калісь дагэтуль. Гэтыя-ж факты ўпарта гавораць, што небясьпека пагражае ня толькі ад Японіі.

Такімі фактамі, нязьбітымі доказамі апошняга часу, сьцьверджаючымі слушнасьць нашых прадбачаньняў, зьяўляецца ўзмоцненая актывізацыя нацыянал-угоды (хадэкаў, санацыі, нацыянал-сацыялістаў і іншых) на Заходняй Беларусі, выкрыцьцё блёку Луцкевіча—Станкевіча—Дварчаніна і Марцінчыка. Усё гэта паказвае, што адпаведныя пляны выкоўваюцца ня толькі ў Токіо...

Такія рэчы трэба бачыць і разумець. Трэба бачыць, што справа ня толькі ў Далёкім Усходзе, што вайна, распачатая там, *будзе сыгналам*... Бачыць і разумець, што „Далекі Усход“ знаходзіцца ад нас зусім не далёка.

**А. Леўскі.**

**Рэдакцыя атрымала для бастуючых лясных работнікаў прывітаньні і грошы: в. Мікулічы—4 зл., в. Белая—9 зл., в. Драчылова—2 зл. 50 гр.**

## Барацьба з голадам.

Голадам ахоплена цэлае Віленскае ваяводзтва. Аб гэтым пачынаюць гаварыць і пісаць нават тыя, хто стараўся прамаўчаць аб сапраўдным стане рэчаў зьбяднеўшае ў працягу 4-х гадовага крызісу беларускае і літоўскае вёскі.

Мы атрымоўваем штодзенна лісты, якія, поўны роспачы, клічуць на дапамогу перад пагрозаю галоднае сьмерці.

Газэта „Кур'ер Вілен." ад 17. І. пасьвячае гэтай справе цэлы артыкул, дзе піша: „З ураджаю ня собрана нават насеньня для засеву".. далей прыводзіць таблічку, якая паказвае разьмер неўраджаю, і пагражаючай катастрофы:

| Гады | 1928 | 1932 | 1933 |
|---|---|---|---|
| пшаніца . . . . . | 134,499 | 162,690 | 146,547 |
| жыта . . . . . . | 1,731,841 | 2,190,052 | 1,892,243 |
| ячмень . . . . . | 436,717 | 505,957 | 362,141 |
| авёс . . . . . . | 772,050 | 998,341 | 671,902 |
| арох . . . . . . | 204,607 | 238,156 | 176,496 |
| бульба . . . . . | 6,616,612 | 9,393,61 7 | 5,186,849 |

Прыгледзіўшыся ўважліва да гэтых лічбаў можна зразумець, які цяжар лёг на бядоту і сярэднія гаспадаркі вёсак Заходняе Беларусі. „Зразумела — піша „Кур'ер Вілен"., што вясною ня будзе чым сеяці, гэта сьцьверджана войтамі, аграномамі і арганізацыямі „Rolniczemi". Ужо сёньня заўважана ў Пастаўскім павеце некалькі выпадкаў *апухшых школьных дзяцей з голаду* *). Дзісьненскі павет зарэгістраваў 20,000 дзяцей школьнага веку, патрабуючых дапамогі". У гэтымжа артыкуле чытаем далей: „Запасы збожжа альбо ўжо *выйшлі*, альбо на перэдадню таго. У Сьвянцянскім павеце яшчэ ў лістападзе мінулага году сьцьверджана, што ядуць хлеб з прымясьсю дрысы, мякіны, макухі. Насельніцтва пазбаўлена жывога інвэнтара. У аднэй вёсцы, Кабыльніцкае гміны 60 гаспадароў пакінулі на зіму толькі тры штукі нерагатае жывёлы.

Па няпоўным падліку, які падае „Кур'ер Віл." патрэбуюць тэрміновае дапамогі ў паветах: Дзісьненскім, Сьвянцянскім, Браслаўскім, Пастаўскім і Віленскім 20,000 сем'яў. Калі прыняць пад увагу многасямейнасьць на вёсцы, дык гэтая лічба перавышыць 100,000 душ, якія глядзяць ў вочы галоднай сьмерці. Каб, астацца жывымі, *яны патрабуюць скорае дапамогі.*

„Семьям, якіх захапіў неўраджай, прыдзя з дапамогаю ўрад",—абвяшчае аўтар прыведзенага артыкулу. Пакуль што галодныя гэтага ня адчуваюць, але-ж яны зьяўляюцца сьведкамі сьцяганьня падаткаў і па сёньняшні дзень. Сэквестратар забірае апошнее з хаты, яны бачаць, як з ліцытацыі прадаюць забраныя рэчы. Адчуваюць сяляне і рынак, дзе спэкулянты выкарыстоўваюць нэндзу і голад. Яны пачалі павышаць цэны на хлеб. Пуд жыта на Пастаўшчыне каштуе больш, як тры злоты; бульба, нязьменны спадарожнік долі селяніна Заходняе Беларусі, злот, а то і балей.

Працы, дзе можна было-б зарабіць на кавалак хлеба для дзесяткаў тысяч вольных рук, голадам ахопленых паветаў, ня можна знайсьці, бо беспрацоўе ня толькі не спыняецца, але з кожным днём павялічваецца ва ўсім краі.

Пагроза, якая навісла над Віленшчынай і Палешчынай ня можа праходзіць міма ўсяго працоўнага грамадзянства Заходняе Беларусі. Мы ня можам бязчынна стаяць і глядзець на павольнае галоднае кананьне нашых братоў і іх дзяцей, якія, нават паводле прэсы, *пухнуць з голаду*. Ведаем з досьляду мінулых галодных гадоў, што „Абыватэльскія камітэты", якія закладаліся і цяпер закладаюцца для зборкі дапамогі галадаючым—фактычнае дапамогі не давалі і не дадуць. Нашым абавязкам павінна быць разам з галадачюымі, дамагацца дармовае дапамогі з боку дзяржавы.

*) Курсіў наш.

## Прыклад другім.

Падпісны ліст на падтрыманьне „Беларускае Газэты" і „Літэратурнае Старонкі" грам. вёскі Каралевічы, Галубіцкае гм., Дзісьненскага пав.: А. Рэдзька 1 зл., І. Рэдзька, А. Рэдзька, К. Рэдзька, І. Рэдзька, К. Рэдзька, В. Грумондзь, П. Дорошчонак, І. Дорошчонак, К. Рэдзька далі па 20 гр. В. Рэдзька і П. Грумандзь—па 50 гр. Г. Шапко—30 гр. П. Дорошчонак — 40 гр. і І. Шыбко, Д. Пашкевіч, М. Грумандзь, З. Масеёнак, і Дзегцяронак—па 25 гр.

* * *

Рэдакцыя „Бел. Газэты" шчыра дзякуя гр. в. Каралевічы за іх братэрскую дапамогу нашай працоўнай газэце. Ваш прыклад, як і прыклад іншых гр., зьяўляяцца доказам аб слушнасьці ўзятае намі лініі ў сваёй працы. Рэдакцыя заклікае усё працоўнае грамадзянства зрабіць тое самае, што і в. Каралевічы.

# Справы ТБШ.

## Пастанова супроць мас.

Кожны крок наперад у сучаснай барацьбе на нацыянальна-вызваленчым фронце аткрывае перад намі ўсё новае і новае, тое, што калісь было спрытна замаскавана, сёньня ў разгары барацьбы, маскі спаўзаюць, паказваецца сапраўдны твар.

Такім выяўленьнем сапраўднага твару было апошняе паседжаньне Галоўнае Управы Таварыства Беларускае Школы, якое адбылося пры поўным сваім складзе 15 студзеня гэтага году.

Побач з другімі, галоўным пытаньнем стаяла: разгляд зьмешчаных артыкулаў за апошнія часы у „Бел. Газ." у справе ТБШ і яго паасобных сяброў, займаючых адказныя становішчы. Гэта значыць Марцінчыка і Лукашыка.

Тэбэшоўская маса даўно чакала пастановы Галоўнай Управы. Яна чакала пастановы, якая-б адбівала настрой і патрэбы гэтай-жа масы. Настрой прадстаўнікоў апошняга Беластоцкага Зьезду, які не маглі не адчуваць старшыня Гал. Упр. Стэцкевіч і сябра Кізевіч, бо яны на гэтым Зьездзе прысутнічалі, сваімі ўласнымі вачыма бачылі доказ варожасьці ўсіх прысутных да сваей палітыкі.

Сёньня Галоўная Управа парвала з маўчаньнем, яна на чале з старшынёю Стэцкевічам пры асабліва *актыўным удзеле Марцінчыка і Шырмы* прыняла пастанову, якая скіравана супроць *тэбэшоўскіх мас*, супроць *працоўнага народу Заходняе Беларусі.* Гэтай пастановай Галоўная Управа канчаткова паказала *сваю належнасьць да лягэру нацыянал-здрады*. Уласьне так, а не іначай, бо яна—Галоўная Управа—выступала ў абарону выкрытых шкоднікаў.

У справе Марцінчыка Управа *аднагалосна* прыняла пастанову, апраўдываючы поўнасьцю яго. У справе Лукашыка: пастановы гуртка, і Акружнай Управы прызнаны ўневажненымі з прычыны адсутнасьці здавальняючых матэр'ялаў.

„Няма матэр'ялаў" — вось адказ Галоўная Управа апраўдывае афіцыяльна ўсю дзейнасьць Марцінчыка. Ужо гэтым самым (а як ведаем гэта знайшло выразную праяву ў выступленьнях на паседжаньні Гал. Управы) яна бароніць усю яго палітыку, гэта значыць палітыку выкрытых цяпер Дварчанінаў і Рак-Міхайлоўскіх. Галоўная Управа цяпер *выразна* паказала, што фактычна праводзіць тую самую палітыку, якую вядуць Луцкевіч і Астроўкі, Кс. Станкевіч і Клімовіч.

Галоўная Управа рашыла выдаваць надалей „Летапіс ТБШ" заданьне каторага аткрытая барацьба з сапраўднымі мэтамі і сёньняшнімі жаданьнямі працоўных масаў Заходняй Беларусі. Сярмяжны люд спаткае вашу пастанову і ваш ворган з агідаю, пагардаю і злосьцю.

Нам дарагі нацыянальна-вызваленчы рух, заўтрашняе барацьбяных масоў. У мэтазгоднасьці гэтага руху і карысьці прыгнечаных, мы высьветлім тое што ёсьць і аб тым, як было.

Кізевіч, прысутны пры славутым выступленьні Марцінчыка ў прыватнай гутарцы, яшчэ да артыкулу „Тое, што сталася" расказваў: „Так, выступленьне Марцінчыка было *ня добрае...*"

Аб гэтым Кізевіч маўчыць цяпер. Ен сёньня кажа, што нічога ня было, што Марцінчык нічога дрэннага не казаў.

Другі факт, надзвычай каштоўны. Кізевіч жыве ў Беластоку, ён прысутнічае на сходзе гуртка ТБШ, асьведамлены аб *грашовых растратах гуртка*, зробленых панам Лукашыкам, ён зьяўляецца сьведкаю, калі гурток, складзены пераважна з работнікаў, роўна пяць гадзін разьбіраў гэтую справу, гэта ён нарэшце, бачыў, як работнікі ад варштату, бароначы гонар Таварыства, пры дапамозе Тапільскага гуртка ўстанавіў: што Лукашык атрымаў ад Тапільскага гуртка 5 зл. 45 гр. сабраных на карысьць Гал. Упр. і іх растраціў, ён-жа атрымаў 20 зл. на кніжкі і 15 зл. на іншыя справы і ўсё ўжыў на свае патрэбы. *Гэтага мала.* Кізевіч чуў і добра ведаў, бо сам прыймаў удзел у ўнутранай пазычцы гуртка на грамадзкія патрэбы. З гэгых грошаў Лукашык прысабечыў больш 40 злотых.

Кізевіч аб гэтым ведаў і пад націскам работнікаў, каб захаваць свой аўтарытэт, на паседжаньні новае Акружнае Управы прапанаваў сам ходаць перад Гал. Упр. аб выключэньні В. Лукашыка з шэрагаў Таварыства.

Што гэта значыць?! пытаемся мы і адказваем: ігра на два фронты ў карысьць ворагаў сярмяжнага люду. Вось што гэта значыць.

Бо запраўды трэба быць дзівачом, каб яшчэ сёньня разважаць—можа Кізевіч памыліўся. Ён сумысьля з Марцінчыкам і Шырмаю, гэтымі манякамі хаваў праўду Галоўнае Управы. *Няпраўда!* Матар'ялы ёсьць, Вы аб іх ведаеце, але сьвядома хаваеце. Дык калі Вы іх хаваеце, мы іх будзем апублікоўваць (гл. у гэтым нумары выняткі са „Справы народавасьцёвэ").

Вось яна праўда! Яе мы паказваем з аднэй мэтай, з адным жаданьнем: сарваць маску з ворага і яго агентаў; паказаць народу тых, хто прадаваў яго; гэтым самым узмацніць нацыянальн-а вызваленчы рух, сцэмантаваць шэрэгі працоўных гушчаў.

Падрыхтоўваецца агульны Зьезд ТБШ. Марцінчыкі і Шырмы пры дапамозе розных фармальных ці нефармальных штучак рыхтуюцца недапусьціць да голасу тэбэшоўскіх масаў, яны хочуць пад прыкрыцьцём розных фармальнасьцяў недапусьціць прадстаўнікаў *масаў* да выбару новай Гал. Управы, а самым яе выбраць—з пасярод „сваіх" людзей.

Гэту небязьпеку трэба бачыць. Масы павінны паслаць сваіх прадстаўнікоў на Зьезд, каб забраць кіраўніцтва ТБШ ад тых, якія нічога супольнага з масамі не маюць, выступаюць супроць інтарэсаў працоўных. *Тэбэшовец.*

## Дакумэнты.

### Да Рэдакцыі „Беларускай Газэты".

У справе прабегу Беластоцкага Акружнога Зьезду 20.ХІ.1932 г. Галоўная Управа ТБШ для інфармацыі чытачоў Беларускай Газэты і *высьвятленьня праўды* падае наступнае:

Галоўная Управа ТБШ на сваім паседжаньні 15.І.1934 г. разглядала закіды зробленыя ў шэрэгу артыкулаў Беларускай Газэты аб сфальшаваньні пратаколу Беластоцкага Акружнога Зьезду 20.ХІ. 32 г. і асабістыя закіды віцэ-старшыні Галоўнае Управы М. Марцінчыку у сувязі з выступленьнем яго на гэным зьездзе па пытаньню *аб супрацоўніцтве з польскімі арганізацыямі і зваротам* да зьезду аб працы гурткоў *паводле статуту*.

Пры разглядзе гэтай справы Галоўная Управа мела на увазе наступныя *матар'ялы*: артыкулы Беларускай Газэты ў нумарах 10-15, пратакол Беластоцкага Акружнога Зьезду 20. ХІ. 1932 г., пісьмо грам. Марцінчыка у Беларускай Газэце, два пратаколы Беластоцкай Акружнай Управы — 12.ХІ і 28.ХІ 33 г., пратакол Беластоцкага Гуртка 10.ХІІ.33 г., выясьненьні грам. Марцінчыка на паседжаньні Галоўнай Управы і *прабег Беластоцкага Акружнога Зьезду* 17.ХІІ.1933 г.

Разгледзеўшы гэтыя матар'ялы, Галоўная Управа прызнала, што *дэклярацыя сябры Галоўнае Управы М. Марцінчыка на Беластоцкім Акружным Зьездзе 20.ХІ,32 г. ня была рэзалюцыяй Зьезду, якая абавязкава павінна была быць унесена у пратакол*, тым балей, што Беластоцкі Акружны Зьезд 17.ХІІ.33 г. заслухаўшы гэны пратакол *ня ўнёс ніякіх дапаўненьняў да яго.*

Што датычыць характару гэтай дэклярацыі, то, маючы на увазе—супярэчнась у пастановах Беластоцкай Акружнай Управы 12.ХІ і 28.ХІ.33 г,, тое, што *самы Зьезд* 20.ХІ.32 *ня выразіў ў якой колечы форме пратэсту супроць гэтай дэклярацыі* і ўрэшце тое, што ані артыкулы Беларускай Газэты, ані пастановы Беластоцкай Акружнай Управы 28.ХІ.32 і Беластоцкага гуртка 10.ХІІ.33 г. не падаюць, *што іменна было сказана гр. Марцінчыкам* — Галоўная Управа, *апіраючыся на конкрэтныя дадзеныя*, якія мела у сваім распараджэньні, сцьвердзіла наступнае: *заява грам. Марцінчыка*, што ТБШ ня ёсьць арганізацыя шовіністычная, ня сее розьні паміж працоўнымі, ня можа адмовіцца ад сужыцьця з такімі-ж арганізацыямі іншых народаў, затое ня можа быць мовы аб супрацоўніцтве з такімі арганізацыямі, мэтай якіх зьяўляецца змаганьне з беларускай культурай інтарэсамі працоўных — *не разыходзіцца з тым становішчам, якое займае ў гэтай справе Галоўная Управа,* заклік жа грам. Марцінчыка весьці працу паводле статуту меў характар перасьцярогі, а не указаньня на тое, быццам паасобнымі гурткамі вялася ці вядзецца антыстатутовая праца. Такія перасьцярогі рабіліся заўсёды на зьездах ТБШ.

**Галоўная Управа.**

23.І.1934 г.

АД РЭДАКЦЫІ: Апроч вышэйпрыведзенага лісту ад Гал. Управы, нашая рэдакцыя атрымала ліст ад д-ра Марцінчыка ў каторым ён прасіў зьмясьціць у „Белар. Газэце" наступнае запярэчаньне: ... „Няпраўдай ёсьць, што я ў сваім выступленьні і ў сваёй рэзалюцыі, заклікаў (ТБШ) да супрацоўніцтва з палянізатарскімі арганізацыямі"...

У сувязі з гэтым, мы лічым, што найбольш карысным і мэтазгодным будзе апублікаваньне *дакуманту*. Пры гэтым зварочваем увагу на наступнае: Гал. Управа пры разглядзе гэтай справы, карысталася шмат якімі дакумэнтамі, але *сьвядома* не ўзяла пад увагу найважнейшага, а іменна—разалюцыі Марцінчыка, надрукаванай у „Sprawach Narodowościowych". Мы ведаем, што „Sprawy Narodowościowe" далёкія ад абароны інтарэсаў беларускіх масаў, але мы ўпэўнены, што рэдакцыя гэтай часопісі дакумэнту не сфалшавала—тым больш, што ніхто ў рэдакцыю „Spraw Narodowościowych" запярэчаньня ня прыслаў.

Няхай дакумэнт сам гаворыць за сабе.:

...Па заканчэньню Зьезд прыняў наступную рэзалюцыю, якую прачытаў д-р Марцінчык: „Зьезд дэлегатаў ТБШ падкрэсьляе, што ўсялякія выступленьні беларускага насельніцтва супроць дзяр-

